# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

11.10.12-17.10.12 г.


## НАРОДНЫЯ АБРАННІКІ



ЗА ШТО ІХ ЎЗНАГАРОДЖВАЮЦЬ

СТАР. 4–5

## МАЮЧЫ НАФТУ,

ЗАБІ НА ДЭМАКРАТЫЮ



СТАР. 6-7

# НЕЎЗАБАВЕ ВЫЗВАЛЯЦЬ ПАЛІТВЯЗНЯЎ?

У распараджэнне «Тут і цяпер» паступіў сенсацыйны дакумент, згодна з якім беларускія ўлады вывучаюць пытанне аб стварэнні нацыянальнай установы па заахвочванні і абароне правоў чалавека.



*Гандляваць палітвязнямі - звыклая справа*

### ...І ІНСТЫТУТ ДЛЯ АБАРОНЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

По нашай інфармацыі, ліст разасланы зацікаўленым арганізацыям Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі.

Варта адзначыць, што гэты цэнтр з'яўляецца навукова-практычнай дзяржаўнай установай, якая забяспечвае падрыхтоўку праектаў заканадаўчых актаў у Рэспубліцы Беларусь, метадычнае кіраўніцтва нарматворчай дзейнасцю, правядзенне навуковых даследаванняў у галіне права і падрыхтоўку навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі. Асноўныя функцыі цэнтра — распрацоўка праектаў законаў, ажыццяўленне іх экспертызы, планаванне заканатворчасці ў Рэспубліцы Беларусь.

То бок гэта менавіта тая структура, якая «спускае» дэпутатам на зацвярджэнне ўсе праекты законаў. Парламент, як вядома, дае на гэта сваю поўную згоду.

У лісце гаворыцца пра тое, што 23 верасня 2010 года Савет ААН па правах чалавека зацвердзіў даклад па выніках пройдзенага Беларуссю Універсальнага перыядычнага агляду па правах чалавека (УПА)*.

*«У рамках УПА на адрас Беларусі дэлегацыямі краін — членаў ААН былі распрацаваны рэкамендацыі, вялікая частка якіх была ўхвалена Рэспублікай Беларусь. У рамках наступнага УПА (у пачатку 2014 года) Рэспубліка Беларусь павінна будзе прадставіць інфармацыю аб мерах, прынятых з мэтай рэалізацыі названых рэкамендацый»,* — паведамляецца ў дакуменце.

> "Але пакуль у Беларусі ёсць палітвязні, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі, казаць аб правах чалавека вельмі складана. Спачатку трэба зняць з парадку дня гэтае пытанне, інакш гэта стане першай праблемай нацыянальнага інстытута па правах чалавека".

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДА ВЕДАМА**

* Універсальны перыядычны агляд (УПА) — механізм Савета па правах чалавека, у рамках якога ён праводзіць рэгулярныя агляды выканання 192 дзяржавамі — членамі ААН абавязацельстваў у галіне правоў чалавека. Па выніках азгляду Савет па правах чалавека ААН выпрацоўвае меры па выкананні дзяржавай абавязацельстваў у галіне правоў чалавека.

**НАВІНА**

## ЧАТЫРЫ СЛЕДЧЫЯ

Як падлічыла Еўрарадыё, за 13 гадоў справу аб знікненні экс-міністра Юрыя Захаранкі вялі 4 (!) следчыя, цяпер над ёй працуе пяты.

Следчы камітэт працягнуў да 24 снежня 2012 года следства па справе былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Адказаў на пытанні, ці гэта звычайная працэдура, ці прычына ў з'яўленні нейкіх новых звестак, прэс-служба Следчага камітэта не дае.

Фармальна гэта азначае, што могуць праводзіцца допыты ды апытанні па справе. Але як стала вядома Еўрарадыё, ніякіх допытаў ці якіх іншых следчых дзеянняў з удзелам родных зніклага Захаранкі следчыя не праводзілі... з 1999 года. Пра гэта распавядае жонка былога міністра Вольга Захаранка, яна цяпер жыве ў Германіі. Пра тое, што справу працягнулі, жонка і дочкі зніклага генерала даведаліся ад… Еўрарадыё.

Вольга Захаранка: "Па першым часе пасля таго, як ён быў скрадзены — праз месяцы два ці найбольшае тры — пару разоў я давала паказанні. Зразумела, я казала, што я думаю і якія падазрэнні маю. А больш з таго часу да мяне ніхто не звяртаўся. Цягам усіх гэтых гадоў ніхто не толькі не спрабаваў звязацца — мне падаецца, што нас проста ігнаравалі".

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# ЗАЎТРА ШКОЛЫ: СТАБІЛЬНАСЦЬ АЛЬБО "СТАБІЛІЗЕЦ"?

На днях віншавалі настаўнікаў з іх прафесійным святам. Столькі добрых (часта абсалютна заслужана) слоў было сказана ў іх адрас. Разам з тым ледзь ці не палова юнакоў і дзяўчат ужо ў школе мараць з'ехаць за мяжу. Дый імпэту набываць веды ў нашага грамадства становіцца ўсё менш. Чаму так адбываецца, аналізавала "Тут і цяпер".




*Мы недалёка адыйшлі ад школы 80-х*

**АНАТОЛЬ ПАЎЛАЎ, БЫЛЫ ПРАРЭКТАР БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА:**

### "КОЛЬКІ ДАБАЎЛЯЮЦЬ МІЛІЦЫІ, І КОЛЬКІ — АДУКАЦЫІ… ДЗЕЦІ НЕ ХОЧУЦЬ ВУЧЫЦЦА".

— Пра школу я магу меркаваць толькі па водгуках знаёмых выпускнікоў. Прынамсі, можна сказаць, што яна, мякка кажучы, не развіваецца. У прынцыпе, дзеці сёння не хочуць вучыцца. Чаму? Усё вельмі проста: таму што ў дзяржаве змешчаны акцэнты. Фактычна высокакваліфікаваная праца аплачваецца менш за ўсё. Таму навошта старацца вучыцца ў школе, калі можна добра ўладкавацца і без добрай адукацыі? Яшчэ некалькі гадоў назад дэкан нашага факультэта прыкладной матэматыкі (ФПМ БДУ. — Заўв.аўт) пры сустрэчы скардзіўся, што на першым курсе ён вучыць дзяцей пачатковай матэматыцы. З тых часоў у школе ніякага прагрэсу не намецілася. Гэта адзін з яркіх прыкладаў. Яшчэ непісьменнасць. Вазьміце апошнія тэсты. Калі вучань атрымлівае 7, 6 ці 9 балаў са ста, то гэта ж пра нешта кажа! Самыя бедныя людзі ў нас — урач і настаўнік. І гэты бедны чалавек штодня ў дзяцей перад вачыма — прыклад таго, выбачайце, як нельга жыць (у матэрыяльным плане).

**ТАМАРА МАЦКЕВІЧ, НАМЕСНІЦА СТАРШЫНІ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ (ТБШ):**

### "СЯРЭДНЯЯ АДУКАЦЫЯ СТАБІЛЬНА ДЭГРАДУЕ".

— Наша школа стабільна дэградуе, а не развіваецца. Сучасныя змены ў пачатковай адукацыі адбываюцца насуперак сусветным тэндэнцыям развіцця адукацыі. Гэта можа тычыцца зместу і методык вучэбнага працэсу, ідэалагічнага выхавання, загружанасці настаўнікаў рознымі неўласцівымі адукацыі абавязкамі і многага іншага.

Настаўнік павінен запаўняць кучу непатрэбных папер, вадзіць дзяцей на хакей, сачыць, як вучні падпісваюць сшыткі. Сёлета трэба пісаць "учащегося", а летась трэба было пісаць "ученика". Раней трэба было скарачаць "мат.", а цяпер — "матэм." І за невыкананне гэтых інструкцый настаўніка могуць нават звольніць. Галоўнае, каб было за што зачапіць іншадумцаў. Як сярод настаўнікаў, так і сярод вучняў.

Гэтыя інструкцыі не маюць нічога агульнага з сучаснымі зменамі ў адукацыі. Сёння трэба адно, заўтра — іншае, бо рынак працы патрабуе больш высокага ўзроўню кампетэнцыі ад спецыялістаў. А ў нас звяртаюць увагу не на тое, каб даць веды дзецям, а на тое, каб кантраляваць іх, каб хадзілі строем і былі паслухмянымі.

**УЛАДЗІМІР КОЛАС, ДЫРЭКТАР ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА:**

### "ВЫХОЎВАЕЦЦА ТАТАЛІТАРНАЯ МЕНТАЛЬНАСЦЬ".

— У прынцыпе, яна стабільна застаецца на пазіцыях савецкай школы. Што тычыцца матэрыяльнай базы, то тут таксама ўсё вымушае жадаць лепшага. Але самае сумнае тое, што яна працуе на прадуцыраванне канфармізму і таталітарнай ментальнасці і не адпавядае патрабаванням часу ў плане магчымасці прадастаўлення выбару і ўмення карыстацца гэтым выбарам. А гэтае ўменне ў сучасную эпоху найбольш важнае.

**ДЗЯНІС КІРЭЙЧЫК, НАСТАЎНІК БІЯЛОГІІ:**

### "САВЕЦКАЕ — НЕ ЗНАЧЫЦЬ ГОРШАЕ".

— У нашай "савецкай" школы не так мала пераваг. Гэта і сістэматычнасць ведаў, і грунтоўнасць падачы матэрыялу, і вялікая колькасць гадзін, што выдзяляюцца на навучанне дзяцей. У параўнанні з Захадам, на дакладныя навукі ў нас выдзяляецца разоў у пяць больш часу. У нас больш глыбокая праграма. На Захадзе эканомяць на чым толькі можна, і на адукацыі ў першую чаргу. У Савецкім Саюзе ніхто не эканоміў на школах. Савецкая сістэма па хіміі, я лічу, была лепшай у свеце: хімія ў школах, асабліва ў старшых класах, выкладалася на ўзроўні нармальнай заходняй вышэйшай навучальнай установы.

**ВАЛЯНЦІНА ПАХОМЧЫК, НАСТАЎНІЦА МУЗЫКІ:**

### "У НАС НЕ ВЫХОЎВАЮЦЬ БЕЛАРУСАЎ".

— Пра якое развіццё можна ўвогуле гаварыць, калі прыбіраюць усе "ўхілы"? Да мінімуму звялі эстэтычную адукацыю, гімназіі хочуць зноў зрабіць школамі… Я ўжо не кажу пра нацыянальны момант. Каго, скажыце, калі ласка, выхоўваюць у нашай школе? Беларусаў? Не. Нават гісторыю краіны перавялі на мову суседняй дзяржавы. Людзей культурных і з шырокім кругаглядам? Ні ў якім разе! Увесь кругагляд абмяжоўваецца датамі і савецкімі героямі. У нашай школе час спыніўся, як і ва ўсёй дзяржаве.

**АПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ.**

**АФІЦЫЙНА**

### БЕЗЛІЧ АПТЫМІЗМУ

Стварэнне ўмоў для стабільнага развіцця беларускай школы з'яўляецца першачарговай задачай. Пра гэта гаворыцца ў нядаўнім віншаванні Аляксандра Лукашэнкі педагагічным работнікам Беларусі з нагоды іх прафесійнага свята — Дня настаўніка.

«Праца педагога — адна з самых важных і высакародных на Зямлі. Яго вынікі шмат у чым вызначаюць ход гісторыі і ўплываюць на лёсы пакаленняў. Місія настаўніка заключаецца не толькі ў перадачы ведаў, а перш за ўсё — у фарміраванні асобы вучня, выхаванні годных грамадзян і патрыётаў Айчыны», — гаворыцца ў віншаванні.

# НЕЎЗАБАВЕ ВЫЗВАЛЯЦЬ ПАЛІТВЯЗНЯЎ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Сярод рэкамендацый, якія ўхвалены Беларуссю, вывучэнне магчымасці стварэння нацыянальнага інстытута для абароны правоў чалавека, акрэдытаванага Міжнародным каардынацыйным камітэтам нацыянальных інстытутаў па заахвочванні і абароне правоў чалавека, а таксама рэкамендацыі аб разглядзе пытання і вывучэнні магчымасці стварэння нацыянальнага інстытута па правах чалавека ў адпаведнасці з Парыжскімі прынцыпамі.

*«Асаблівасці прававога статусу, патрабаванні да паўнамоцтваў і функцый нацыянальных устаноў па заахвочванні і абароне правоў чалавека (НУПЧ), іх складу і метадаў работы, гарантыі незалежнасці і плюралізму пры ажыццяўленні імі сваёй дзейнасці замацаваны ў палажэннях згаданых Парыжскіх прынцыпаў, якія тычацца нацыянальных устаноў, што займаюцца заахвочваннем і абаронай правоў чалавека, прынятых рэзалюцыяй Генеральнай асамблеі ААН ад 20 снежня 1993 гады № 48/134»*, — гаворыцца ў лісце.

## ПАКУЛЬ У ПОШУКАХ ФОРМЫ, А НЕ СУТНАСЦІ?

*«Зыходзячы з аналізу замежнага вопыту ў галіне стварэння і арганізацыі дзейнасці НУПЧ, у многіх краінах свету сёння існуюць адмысловыя нацыянальныя інстытуты па правах чалавека. Яны прадстаўлены дзвюма асноўнымі формамі: упаўнаважаныя па правах чалавека (амбудсмены, народныя абаронцы і г.д.), якія выбіраюцца (прызначаюцца) у індывідуальным парадку, і спецыяльныя калегіяльныя органы па правах чалавека (нацыянальныя камісіі, камітэты, інстытуты, цэнтры і г.д.)»*, — тлумачыцца ў дакуменце.

*«З мэтай вывучэння думкі зацікаўленых дзяржаўных органаў і іншых арганізацый Рэспублікі Беларусь па пытанні аб магчымасці ўвядзення нацыянальнага інстытута па правах чалавека»* Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў просіць выказаць меркаванне аб неабходнасці стварэння ў Беларусі НУПЧ, а таксама прапановы адносна найбольш прымальнай формы такой установы і асноўных пытанняў арганізацыі яго дзейнасці.

Калі гэты Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў ўзяўся за ўвядзенне інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека ў Беларусі — значыць, справа сур'ёзная.

Аднак праваабаронцы пакуль што не вельмі захоплены такой прапановай. Яны, безумоўна, вітаюць гэты крок, бо пытанне стварэння інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь разглядалася на працягу 18 гадоў праваабаронцамі і ўладамі. Але ніводнай канкрэтнай размовы ці прапановы па стварэнні такога органа агучана не было.

Праваабаронцы канстатуюць сур'ёзную праблему, якая можа перашкодзіць стварэнню інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека ў Беларусі.

## ТОЛЬКІ МАЛЕНЬКІ КРОК НАПЕРАД

Член Савета грамадскага аб'яднання «Цэнтр па правах чалавека» **Сяргей Марцалеў** заявіў, што такі ліст — «маленькі, але крок наперад у напрамку да абароны правоў чалавека ў Беларусі». «Але пакуль у Беларусі ёсць палітвязні, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі, казаць аб правах чалавека вельмі складана. Спачатку трэба зняць з парадку дня гэтае пытанне, інакш гэта стане першай праблемай нацыянальнага інстытута па правах чалавека», — лічыць Марцалеў.

Аналагічнага пункта гледжання прытрымліваецца і лідар грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі камітэт» **Алег Гулак**. «Сам ліст можна расцэньваць як станоўчы момант, таму што да гэтага часу, акрамя няясных намёкаў аб магчымасці ўвядзення ў Беларусі пасады амбудсмена, у гэтым напрамку не было зроблена ніякіх крокаў», — заявіў ён.

Як адзначыў Гулак, першай праблемай, якую трэба вырашаць пры стварэнні згаданага інстытута, з'яўляецца праблема палітычных зняволеных. «Для таго каб паўнавартасна абмяркоўваць стварэнне інстытута па правах чалавека, трэба выпускаць палітвязняў: і праваабаронца Алеся Бяляцкага, і ўсіх астатніх», — лічыць Гулак.

Падаецца, улады адпрацоўваюць не толькі стварэнне пасады амбудсмена, калектыўнага альбо індывідуальнага. Цалкам магчыма, пытанне палітвязняў у сувязі з гэтым таксама абмяркоўваецца на высокім узроўні. Да чарговага Універсальнага перыядычнага агляду (УПА), на якім Беларусь павінна трымаць справаздачу аб увядзенні пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека, засталося крыху больш за год. Не так ужо і шмат часу на тое, каб стварыць такі інстытут.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

вх N12
01.10.2012



АДМІНІСТРАЦЫЯ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР ЗАКАНАДАЎСТВА І ПРАВАВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
вул. Берсана, 1а, 220050, г. Мінск
тэл. (017) 200 12 25
факс (017) 222 40 96
E-mail: center@pmrb.gov.by

АДМИНИСТРАЦИЯ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
НАЦИОНАЛЬНЫЙ ЦЕНТР ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВА И ПРАВОВЫХ ИССЛЕДОВАНИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ул. Берсона, 1а, 220050, г. Минск
тел. (017) 200 12 25
факс (017) 222 40 96
E-mail: center@pmrb.gov.by

27.09.2012 г. № 06-8/1540

На № ________________ ад __________

Общественное объединение "Центр по правам человека"

О создании в Республике Беларусь национального учреждения по поощрению и защите прав человека

В мае 2010 года в рамках 8-й сессии Рабочей группы по универсальному периодическому обзору Совета ООН по правам человека делегацией Республики Беларусь был представлен национальный доклад по положению с правами человека в Республике Беларусь. 23 сентября 2010 года Совет ООН по правам человека утвердил доклад по итогам пройденного Республикой Беларусь Универсального периодического обзора по правам человека (далее – УПО). В рамках УПО в адрес Беларуси делегациями государств – членов ООН были сделаны рекомендации, большая часть которых была одобрена Республикой Беларусь. В рамках следующего УПО (в начале 2014 года) Республика Беларусь должна будет представить информацию о мерах, принятых для реализации указанных рекомендаций.

В числе рекомендаций, которые одобрены Республикой Беларусь в рамках УПО:

рекомендация об изучении возможности создания национального института для защиты прав человека, аккредитованного Международным координационным комитетом национальных институтов по поощрению и защите прав человека (Алжир);

рекомендации о рассмотрении вопроса (Египет) и об изучении возможности (Малайзия) создания национального института по правам человека в соответствии с Парижскими принципами.

Особенности правового статуса, требования к полномочиям и функциям национальных учреждений по поощрению и защите прав человека (далее – НУПЧ), их составу и методам работы, гарантии

2

независимости и плюрализма при осуществлении ими своей деятельности закреплены в положениях Принципов, касающихся статуса национальных учреждений, занимающихся поощрением и защитой прав человека (Парижских принципов), принятых резолюцией Генеральной Ассамблеи ООН от 20 декабря 1993 года № 48/134.

Исходя из анализа иностранного опыта в области создания и организации деятельности НУПЧ, во многих странах мира в настоящее время существует специальные национальные институты по правам человека. Они представлены в двух основных формах:

уполномоченные по правам человека (омбудсмены, народные защитники и т.д.), избираемые (назначаемые) в индивидуальном порядке;

специальные коллегиальные органы по правам человека (национальные комиссии, комитеты, институты, центры и т.д.).

***Справочно:***

*НУПЧ в форме института уполномоченного по правам человека существует в более чем 100 странах мира (Швеция, Финляндия, Великобритания, Дания, Норвегия, Франция Германия, Бельгия, Швейцария, Испания, Италия, Португалия, Польша, Венгрия, Румыния, Болгария, Кипр, Намибия, Израиль, Тринидад и Тобаго, Пакистан, Аргентина, Боливия, Эквадор, Венесуэла, все государства бывшего СССР, за исключением Беларуси и Туркменистана, и др.).*

*По состоянию на декабрь 2011 года Международным координационным комитетом национальных учреждений по поощрению и защите прав человека аккредитованы 19 уполномоченных по правам человека (Азербайджан, Армения, Болгария, Боливия, Босния и Герцеговина, Испания, Португалия, Польша, Россия, Сербия, Украина, Хорватия, Швеция, Эквадор и др.), 14 учреждений, обеспечивающих деятельность уполномоченных по правам человека (Австрия, Аргентина, Венесуэла, Грузия, Колумбия, Коста-Рика, Намибия, Парагвай, Перу и др.), и 66 национальных коллегиальных органов по правам человека (Австралия, Алжир, Афганистан, Бельгия, Болгария, Германия, Греция, Дания, Египет, Индия, Иордания, Канада, Кения, Марокко, Мексика, Монголия, Нигерия, Норвегия, Словакия, Тунис, Филиппины, Франция, ЮАР и др.).*

Для цели изучения мнения заинтересованных государственных органов и иных организаций Республики Беларусь по вопросу о возможности введения национального института по правам человека просим высказать мнение о необходимости создания в Республике Беларусь НУПЧ, а также предложения относительно наиболее приемлемой формы такого учреждения и основных вопросов организации его деятельности.

Первый заместитель директора А.Г.Макаревич

06 Горбаченко 222 46 64
27.09.2012 НУПЧ в Беларуси_мнение.doc

# ЗА ШТО ЎЗНАГАРОДЖВАЮЦЬ НАРОДНЫХ АБРАННІКАЎ

**У чацвер Палата прадстаўнікоў збярэцца на сваё апошняе пасяджэнне, а потым крэслы ў Авальнай зале зоймуць новыя, так бы мовіць, народныя абраннікі.**

Літаральна пару дзён таму А. Лукашэнка ўзнагародзіў асобных пакуль што яшчэ дзеючых парламентарыяў за "плённую і адданую працу".

**"Тут і цяпер"** паспрабавала высветліць: а ўласна за што іх узнагароджвалі?

## А ЯКІЯ ІХ ПРОЗВІШЧЫ?

Намеснік дырэктара дрэваапрацоўчага прадпрыемства **Сяргей Крук** кажа, што яго галава занята не палітыкай, а тым, як заплаціць людзям зарплату і звесці канцы з канцамі, атрымаць новыя выгадныя заказы, купіць больш танныя якасныя матэрыялы і ў выніку дагадзіць кліенту. Дэпутаты і іх дзейнасць цікавяць вытворцу ў апошнюю чаргу.

*"Шчыра кажучы, я нават не ведаю, што сказаць,* — гаворыць ён. — *Мне здаецца, што ў нас настолькі ціхі і непрыкметны парламент, што ён наогул нічым не мог запомніцца. З жывымі дэпутатамі мне перасякацца не даводзілася, а тэлевізар я нячаста гляджу — у асноўным, калі з работы прыходжу і вячэраю. Сорамна, але больш магу расказаць пра сутычкі ўкраінскіх і расійскіх дэпутатаў. З апошняга запомнілася, як з Дзярждумы выдалялі дэпутата Гудкова. А нашы дэпутаты... Я і гучных імёнаў адтуль назваць не магу. Былі калісьці Кучынскі, Канаплёў. Прынамсі, прозвішчы на слыху былі, а цяпер нават не ведаю. Я вось адразу ўспомню прозвішча кіраўніка расійскай Дзярждумы, а назваць прозвішча спікера Палаты прадстаўнікоў не змагу..."*.

## БЕЗ ПРЭТЭНЗІЙ

А вось палітык **Віктар Івашкевіч** ніякіх прэтэнзій да дэпутатаў не мае.

*"Я дакладна памятаю, што гэты склад Палаты прадстаўнікоў прымаў закон аб мітынгах і сходах — той самы, які ў народзе празвалі "Больш за трох не збірацца",* — узгадвае спадар Івашкевіч. — *Але, шчыра кажучы, у мяне вялікіх прэтэнзій да Палаты прадстаўнікоў няма. Я не хачу ў нечым папракаць так званых дэпутатаў. Няма сэнсу кідаць прэтэнзію тым, каго лічыш нікчэмнасцю..."*.



*Калі-нікалі ўзнікае ўражанне, што нашы дэпутаты знаходзяцца ў космасе*

“Тэлефануе мне міністр і кажа: "Ды мы яго са шпіталя вытурыць не можам. Пад дзвюма коўдрамі схаваўся". Знайшоў там адстойнічак, дзе вырашыў ціхенька адляжацца. Не атрымаецца!"

## ПРАЯДАЮЦЬ НАРОДНЫЯ ГРОШЫ

Вядомы праваабаронца **Гары Паганяйла** лічыць, што наш парламент увогуле нельга назваць уплывовым. І запомніцца ён можа толькі тым, што праядае грошы падаткаплацельшчыкаў.

*"У нас нецікавы парламент і ён не адыгрывае той ролі, якую на самай справе павінен адыгрываць у любым дэмакратычным грамадстве,* — адказвае Гары Пятровіч. — *Наш парламент фактычна сфарміраваны кіраўніком дзяржавы, у нас паслухмяныя так званыя дэпутаты, якіх і дэпутатамі назваць складана з улікам таго, як яны прыйшлі ў гэты заканадаўчы орган.*

*Яны не дэбатуюць, не прыцягваюць грамадскасць да абмеркавання найбольш важных пытанняў. У Палату прадстаўнікоў з Адміністрацыі прэзідэнта пастаўляюць праекты законаў, "дэпутаты" фармальна іх абмяркоўваюць у камісіях, праводзяць першае і другое чытанні, а затым націскаюць на кнопкі. І фактычна ўсе галасуюць "за".*

*За ўвесь час існавання Палаты прадстаўнікоў з моманту яе прызначэння ў 1996 годзе па выніках рэферэндуму ў Авальнай зале не ставілася крытычнае пытанне наконт дзеючай улады. Хоць за гэты час у краіне адбываліся сур'ёзныя працэсы, знешнепалітычныя скандалы...*

*На мой пагляд, парламент нецікавы ні партыям, ні ўраду, ні народу. А дэпутаты праядаюць народныя грошы. Але і такі куцы парламент патрэбен уладзе для таго, каб мець фармальную атрыбутыку падзелу ўлады. Хоць на самай справе ўсё гэта адсутнічае, і прынцыпова галіны ўлады не з'яўляюцца ў нас незалежнымі. Яны не кантралююць ні ўладу, ні саміх сябе, не дапамагаюць грамадзянам адстойваць свае правы праз дэмакратычныя законы. Таму беларускі парламент як заканадаўчы і ўплывовы орган многіх проста не цікавіць. А апошнія*

**ДАРЭЧЫ**

## УЗНАГАРОДЫ — САМЫМ ДАСТОЙНЫМ

За плённую і добрасумленную работу, актыўную дзяржаўную і грамадскую дзейнасць, значны асабісты ўклад у развіццё заканадаўства, парламентарызму і міжпарламенцкага супрацоўніцтва Прэзідэнт Беларусі ўдастоіў дзяржаўных узнагарод дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу чацвёртага склікання і работнікаў сакратарыята ніжняй палаты парламента. Як паведамілі БелТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 8 кастрычніка.

Ордэнам Айчыны II ступені ўзнагароджаны старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзімір Андрэйчанка.

Ордэна Пашаны ўдастоены старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Васіль Байкоў і намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Мікалай Казак.

*выбары выказалі абсалютную апатыю большасці нашых грамадзян да абрання такіх дэпутатаў. Яшчэ адны такія выбары, і можна будзе смела хаваць працэдуру выбараў як такую...*

## ПОЎНЫ "АДАБРАМС" НЕПРЫКРЫТАЙ БРУТАЛЬНАСЦІ

Усім вядома, што 19 снежня 2010 года быў моцна збіты кандыдат у прэзідэнты **Уладзімір Някляеў**, які разам са сваімі паплечнікамі рушыў на Кастрычніцкую плошчу адразу пасля завяршэння прэзідэнцкіх выбараў. Але да плошчы Някляеў так і не дайшоў. Яго моцна збілі, і кандыдат у прэзідэнты трапіў спачатку ў бальніцу "хуткай дапамогі", а затым — у СІЗА КДБ.

Увесь інтэрнэтны свет дакументальна ў відэазапісах убачыў бандыцкі напад на Уладзіміра Някляева ў час выбарчай кампаніі, бачылі яго цяжкі непрытомны стан, пабітую галаву і твар.

"Міліцыя збіла Някляева — ай-ай-ай, ай-ай-ай! — іранізаваў Лукашэнка падчас сваёй прэсавай канферэнцыі 20 снежня2010 года. — Я знаходжу міністра аховы здароўя Жарко ўначы, кажу: "Васіль Іванавіч, я цябе пераканаўча прашу: пракантралюй, акажыце дапамогу. Ты ж разумееш, што смуроду столькі, што далей няма куды". Ён мне кажа: "Ды супакойцеся вы, там драпіна на патыліцы і сіняк пад вокам...". Някляеў ірвецца на плошчу, бо там без яго ўжо дзеляць уладу. Падзеі на плошчы скончыліся. Сабралі кансіліум, яго накіроўваюць на амбулаторнае лячэнне. Тэлефануе мне міністр і кажа: "Ды мы яго са шпіталя вытурыць не можам. Пад дзвюма коўдрамі схаваўся". Знайшоў там адстойнічак, дзе вырашыў ціхенька адляжацца. Не атрымаецца!"

Сам Жарко на гэтыя словы непрыхавана ўсміхаўся.

А дэпутаты на брутальны разгон дэманстрантаў 19 снежня 2010 года, на турэмныя тэрміны для кандыдатаў у прэзідэнты, дэмакратычных актывістаў той прэзідэнцкай кампаніі фактычна зрэагавалі... поўным "адабрамсам".

**МАРЫНА МІТ**

# НАС ІЗНОЎ ЧАКАЕ "ПАРАД КАНДЫДАТАЎ"?

### У адмове ад прэзідэнцкіх амбіцый прызнаецца толькі экс-кандыдат у прэзідэнты Яраслаў Раманчук, сцвярджае Еўрадыё.



Хто будзе супернікам дзеючага кіраўніка краіны ці яго пераемніка на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года? Паводле даўняй завядзёнкі, першым аб сваіх амбіцыях заявіў лідар ліберал-дэмакратаў **Сяргей Гайдукевіч.** Як звычайна, сцвярджае, што канкурэнтаў у яго няма.

**Сяргей Гайдукевіч:** «Мы хочам ужо ў 2013 годзе вылучэнне прайсці, штабы ствараць. А ў іх — да 2015 года ніхто не вызначыцца! Ніякіх адзіных кандыдатаў не будзе, ізноў усе перасварацца, адзін аднаго абвінавацяць».

Гайдукевіч не выключае, што Аляксандра Лукашэнку "забяруць" у Еўразійскі саюз і ён не будзе балатавацца на наступных выбарах. Апазіцыі за перамогу давядзецца змагацца з лідарам ЛДП. А ён, нібыта, іх яшчэ і аплачваць будзе.

Але ці будзе каму з Гайдукевічам змагацца? Ніхто з палітыкаў свае "прэзідэнцкія" планы не заяўляў. Нават **Уладзімір Някляеў** асцярожны:

**Уладзімір Някляеў:** "Я не магу сказаць, што канкрэтна будзе пад 2015 год з Уладзімірам Някляевым, буду я на волі ці ў няволі. Але тое, што грамадзянская кампанія будзе браць удзел у прэзідэнцкіх выбарах 2015 года, — пра гэта магу заявіць адназначна".

Адзіны кандыдат — пажадана, але наколькі верагодна? — сумняваецца Някляеў.

Будзе на выбарах і кандыдат ад Партыі БНФ, упэўнівае Еўрарадыё **Рыгор Кастусёў**. Верагодней за ўсё, ім стане старшыня партыі Аляксей Янукевіч. Але, цяжка ўздыхае Кастусёў, калі партыя палічыць патрэбным накіраваць балатавацца яго, то падпарадкуецца і пойдзе.

Не выключана, што ў спісах кандыдатаў з'явіцца і прозвішча **Аляксандра Мілінкевіча**, дзеліцца з Еўрарадыё прагнозамі на 2015 год намеснік лідара руху "За свабоду" Юрась Губарэвіч.

**Юрась Губарэвіч:** "Мы не выключаем магчымасці ўдзелу Мілінкевіча ў якасці кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах — ён вельмі канкурэнтаздольная фігура".

Але найперш "рухаўцы" будуць імкнуцца да абрання адзінага кандыдата. І Мілінкевіч, нібыта, згодны працаваць на іншага палітыка, калі той выявіцца яшчэ больш "канкурэнтаздольнай фігурай". І экс-кандыдат Віталь Рымашэўскі тое самае гаворыць.

За кандыдатуру адзінага выступае і "Справядлівы свет". Але не выключана, што Сяргей Калякін ці нехта іншы з левых пазмагаецца за гэтую "пасаду", разважае сябра Бюро ЦК "Справядлівага света" Сяргей Вазняк. Тое ж тычыцца і Аб'яднанай грамадзянскай партыі: найперш — "Сумленныя выбары без Лукашэнкі", затым — адзіны, а калі нічога не атрымліваецца — свой кандыдат пасля "партыйных праймерыз". Гэтым кандыдатам можа стаць нават Анатоль Лябедзька.

У чацвёрты раз выйдзе на "прэзідэнцкі" старт і **Віктар Цярэшчанка**. Маўляў, выбару няма — эканоміка краіны патрабуе рэформ і чалавека, які гэтыя рэформы правесці здольны. Ён гатовы не толькі паўдзельнічаць у абранні адзінага, але і сам мае некалькі кандыдатур на прыкмеце. Праўда, імёны не называе.

І толькі экс-кандыдат у прэзідэнты **Яраслаў Раманчук** катэгарычны: хопіць! Знайшоў іншы шлях змяніць уладу ў краіне.

**Яраслаў Раманчук:** "Трэба займацца эканамічнай адукацыяй, трэба рабіць канструктыўныя праграмы, распаўсюджваць веды — каб колькасць людзей, якія выступаюць за сацыялізм і аўтарытарызм, у нашай краіне была меншая. Гэта адзіны шлях да дэмакратызацыі, да перамогі ў краіне іншых сіл".

Ці магчыма з'яўленне сярод кандыдатаў у прэзідэнты нечаканай фігуры? Накшталт Ксеніі Сабчак у ліку лідараў расійскай апазіцыі. Эксперт Паўлюк Быкоўскі лічыць такое малаверагодным.

**Паўлюк Быкоўскі:** "Цалкам нечаканыя фігуры з'яўляюцца толькі ў тым выпадку, калі яны ідуць знізу. А знізу прабіцца вельмі складана, і гэта магчыма толькі ў выпадку разбурэння статус-кво, калі ўлада пачынае ляжаць пад нагамі".

З'яўленне "палітычных канструктаў" — калі група людзей пад свой палітычны праект знаходзіць "вясельнага генерала" — эксперт таксама лічыць немагчымым. Такое, узгадвае, было ў нас толькі аднойчы — у 1994 годзе. І толькі нізкая планка адбору дазволіла ўдзельнічаць у мінулых выбарах такому кандыдату, як, да прыкладу, Дзмітрый Ус.

Такім чынам, на выбарах у 2015 годзе нас ізноў чакае "парад кандыдатаў"?

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# МАЮЧЫ НАФТУ, МОЖНА ЗАБЫЦЦА НА ДЭМАКРАТЫЮ

**«Вашае грамадства прадалося за $500», — папракаюць беларусаў. Што ж, азербайджанцы адракліся ад дэмакратыі і свабодаў за тую ж суму. Афіцыйны сярэдні заробак у Азербайджане пераадолеў запаветную мяжу літаральна месяц таму, піша nn.by.**




*Што тут скажаш, падфарціла Азербайджану з нафтай*

## СІНДРОМ АЛІЕВА

Адзначаць з помпай чарговы Дзень нафтавіка — адно з галоўных святаў Азербайджана — у Баку паклікалі сотні журналістаў з усяго свету, у тым ліку і з Беларусі.

Падчас адкрыцця нафтагазавай выставы да мяне падышоў карэспандэнт з мясцовай газеты з наборам стандартных пытанняў. «Як вам краіна?» — «Ведаеце, тут шмат партрэтаў былога прэзідэнта Аліева», — заўважыў я. «Канечне, Аліеў быў вялікім чалавекам!» — «Але гэта выглядае вельмі смешна…» У наступную секунду журналіст адскочыў ад мяне. Можа, ён падумаў, што сустрэўся з правакатарам-замежнікам, які імкнецца ачарніць дасягненні Азербайджана? Зрэшты, мясцовыя газеты так і пішуць: «як завяшчаў вялікі лідар Гейдар Аліеў…» Так ці іначай, але культам Аліева-бацькі прасякнуты ўвесь Баку.

Прайшоўшы па набярэжнай праз цэнтральны парк (вядома ж, імя Гейдара Аліева), можна налічыць некалькі дзясяткаў партрэтаў былога прэзідэнта, падпісаных цытатамі з яго прамоваў.

Раз-пораз сустракаюцца і плакаты з выявамі Аліева-малодшага. Менавіта ён шчыруе, каб азербайджанцы не забыліся пра яго бацьку.

У выніку ў сталіцы імя Гейдара Аліева атрымалі аэрапорт, праспект, культурны цэнтр, спартыўна-канцэртны комплекс, Акадэмія нацыянальнай бяспекі, нафтаперапрацоўчы завод… У краіне ёсць яшчэ ордэн, нафтаправод і нават горная вяршыня, названыя ў яго гонар.

Будаўнічы бум у Баку шакуе турыстаў. Офісныя хмарачосы чаргуюцца з гіганцкімі гатэлямі і кварталамі жылых шматпавярховікаў на тысячы кватэраў.

Шырачэзныя праспекты, якія маюць па пяць-шэсць палосаў для руху ў кожны бок, злучаюцца з новымі магістралямі. Пры гэтым нават скептыкі адзначаюць, што горад забудоўваецца з розумам, і гістарычная частка Баку застаецца некранутай. За чый кошт банкет? Тлумачэнне простае — Азербайджану надзвычай пашанцавала з геаграфічным знаходжаннем. Краіне дазволілі падняцца нафтавыя запасы.

## НАФТАВАЯ ПАДУШКА БЯСПЕКІ

Грошы, атрыманыя ад продажу вуглевадародаў, сцякаюцца ў Дзяржаўны нафтавы фонд Азербайджана. На пачатак верасня там налічвалася $33 мільярды. А ёсць яшчэ і $11 мільярдаў рэзерваў Цэнтрабанка.

Для параўнання, Беларусь агулам назапасіла $8 мільярдаў, у 5 разоў менш.

Заслуга ў стварэнні спецыяльнага нафтавага фонду сапраўды належыць Гейдару Аліеву. Яшчэ ў сярэдзіне 1990-х ён заключыў так званы Кантракт стагоддзя, дазволіўшы дзясятку сусветных нафтавых карпарацый распрацоўваць радовішчы на Каспійскім моры. Гэтым была вырашаная дадатковая задача. Кампаніі лабіруюць інтарэсы Аліева за мяжой, фактычна прымушаючы краіны Захаду заплюшчваць вочы на парушэнні правоў чалавека ў Азербайджане.

Аб'ёмы здабычы дагэтуль строга кантралююцца ўладай. Аліеў-сын хоча падтрымліваць высокія цэны на сусветным рынку і расцягваць нафтавы рай для сваёй краіны.

Апроч таго, у найбліжэйшы час пачнецца тэндар, каб абраць аператара для здабычы азербайджанскага газу. А гэта — новыя мільярды.

Праўда, ёсць і іншыя меркаванні на гэты конт. Многія эксперты прадказваюць, што запасы нафты ў Азербайджане нашмат меншыя, чым было заяўлена ўладамі. Калі ўлічыць, што ў апошнія гады даходы ад экспарту нафты дасягалі амаль 50% ВУП краіны, заканчэнне нафтавай казкі можа прывесці да катастрофы. Што да газу, то існаванне радовішчаў пакуль даказанае толькі тэарэтычна.

## ПРАЗРЫСТЫ ФОНД І ЦЬМЯНЫ ФОН

Па патрабаванні замежных карпарацый Дзяржаўны нафтавы фонд — надзвычай празрыстая арганізацыя. Падрабязныя справаздачы, якія знаходзяцца ў адкрытым доступе, дазваляюць даведацца, куды быў патрачаны кожны даляр.

Грошы пераважна ідуць на інфраструктуру. «За апошнія тры гады ў Азербайджане пабудавана 2200 новых школаў, сотні паліклінік, бальніц, тэатраў і музеяў», — пералічвае выканаўчы дырэктар фонда Шахмар Маўсумоў. Нядаўна пачаліся і выплаты па замарожаных савецкіх укладах. Уладныя эканамісты палічылі, што на гэта трэба выдаткаваць каля $1,5 мільярда. Невялікія грошы для багатай краіны.

Не ў накладзе застаецца і сям'я прэзідэнта Аліева. Падчас прыватызацыі прадпрыемстваў, якія засталіся краіне з часоў СССР, найбольш атрымалі чыноўнікі, набліжаныя да прэзідэнта, і ягоныя сваякі. Дзве дачкі кіраўніка дзяржавы маюць кантрольны пакет радовішча золата, яны ж валодаюць прадпрыемствам па абслугоўванні авіяліній, банкам, крамамі Duty-Free… А вось на малодшага сына запісаныя некалькі маёнткаў у Аб'яднаных

Арабскіх Эміратах. І гэта толькі вядомая журналістам вяршыня айсберга сямейнага бізнэсу.

## АРМЯНСКАЕ ПЫТАННЕ

Аснова ідэалогіі Азербайджана — тэзіс аб тым, што Гейдар Аліеў пабудаваў моцную самадастатковую багатую краіну. Усё было б у гэтай тэорыі гладка, калі б не няпэўная сітуацыя з Нагорным Карабахам і тэрыторыяй вакол яго. 20% плошчы Азербайджана кантралююць армянскія войскі.

Каб у 1990-х прыцягнуць у занядбаную краіну інвестараў, Аліеў-бацька быў вымушаны скончыць азербайджанска-армянскую вайну, фактычна пасля паразы ў ёй.

Аднак у стратэгічным плане рашэнне аказалася слушным. «Цяпер толькі нашыя вайсковыя выдаткі ўдвая перавышаюць увесь бюджэт Арменіі», — з гонарам заявіў днямі прэзідэнт Ільхам Аліеў. Пры маўклівай згодзе сусветнай супольнасці Азербайджан фактычна ізаляваў Арменію ад эканомікі рэгіёна, не дазваляючы краіне ўдзельнічаць у шматмільённых праектах.

Прапагандысцкая вайна з армянамі працягваецца дагэтуль. І для перамогі ў ёй улады гатовыя плаціць любыя грошы. Аліеў не пашкадаваў 2 мільярдаў еўра, каб набыць непрыбытковыя дзяржаўныя аблігацыі Венгрыі. За гэта венгры адпусцілі з турмы азербайджанскага афіцэра Раміля Сафарава. Той быў асуджаны на 30 гадоў турмы за тое, што падчас стажыроўкі ў Будапешце забіў сякерай свайго суседа армяніна, які нібыта абразіў азербайджанскі сцяг. «Сафарава, нашага нацыянальнага героя, памілавалі проста ў аэрапорце загадам прэзідэнта, — з гонарам расказвае адзін з уплывовых прапагандыстаў краіны, генсек Канфедэрацыі журналістаў Азербайджана Азер Хасрэт. — Дзяржава падарыла яму трохпакаёвую кватэру і выплаціла афіцэрскі заробак за тыя 9 гадоў, якія ён сядзеў у турме ў Венгрыі». «Але ён жа забойца?..» — рытарычна пытаюся я.

«Так павінен быў зрабіць кожны патрыёт, — перакананы Хасрэт. — Сафараў прыйшоў да армяніна з сякерай і патрабаваў прабачэнняў за абражаны сцяг.

Той спалохаўся і стаў выбачацца. Але Сафараў вырашыў, што гэтага недастаткова, таму і забіў армяніна». З пункта гледжання Хасрэта і азербайджанскай прапаганды, сітуацыя выглядае цалкам лагічнай.

**ЯГОР МАРЦІНОВІЧ, БАКУ—МІНСК**



# З ПОЛЯ БОЮ Ў ТВІТЭР!

## «Гэты твіт напісаны падчас руху, седзячы ў вежы каманднa-штабной машыны», піша Еўрарадыё.

Мікалая, карыстальніка твітэра @beliashou, прама з працы прызвалі ў "партызаны", на ваенныя зборы. Цяпер ён на ўвесь інтэрнэт транслюе, як беларускае войска рыхтуецца да "буйной аперацыі".

«У перадапошні дзень збораў будуць маштабныя дзействы. Будуць ісці танкі, прыкрыццё артылерыяй, зеніткі...», — датэлефанаваліся мы да Мікалая, калі ён ідзе ў шыхце з палігона ў казарму і не можа паразмаўляць. Таму звязаліся бліжэй да вячэры.


beliashou @beliashou 27 мин
Этот твит написан во время движения сидя в башне командно - штабной машины. Хорошо, когда есть современные технологии угадывания набора
Развернуть

Мікалай у жыцці працуе сістэмным адміністратарам у ІВА, займаецца падтрымкай сервераў хостынгу. На зборы асабліва не рваўся, але было цікава.

*«Я атрымоўваў званне на ваеннай кафедры, і, на жаль, у той год у Мінабароны зусім не было грошай. Таму ў нас зборы адбываліся на базе ваеннай кафедры і я армію не бачыў ніводнага дня».*

З працы адпусцілі без пытанняў. Зборы ніяк не ўплываюць на адпачынак і заробак — ён захоўваецца, яго прадпрыемству кампенсуе Мінабароны. На зборах кормяць і апранаюць таксама за грошы міністэрства.

*«Мяне тут кормяць, спаць укладваюць і ўсё, што трэба, уручаюць. Я ўяўляю, што ў многіх праца можа быць цяжэй за тое, што адбываецца тут. Тут можна не напружвацца ў плане таго, што не трэба думаць. Усё распланавана без нас».*

Спачатку ўсе жылі ў казармах, там атрымалі абмундзіраванне, прывялі ў парадак тэхніку. А пасля на палігон...

*«Я ўжо згубіў улік часу, 2 ці 3 дні таму мы выехалі на палігон. Тут жывем у армейскіх намётах, у кожным 2 буржуйкі, у нашай 26 ложкаў, якія стаць упрытык, нават праходу паміж імі няма. Падведзена электрычнасць, дзякуючы гэтаму ў мяне яшчэ ёсць інтэрнэт. У казармах ежа была, як у вельмі савецкіх сталоўках, а тут выключна паходная кухня. Тыя самыя кашы з тушанінай і рыбнымі кансервамі, якія я сам бы гатаваў у паходзе. З маім паходным досведам гэта нармальная ежа. Супы, гарбата, сокі, вітамінкі даюць, бутэрброды з салам. Дазіроўкі такія, што на «грамадзянцы» я так не еў».*


beliashou @beliashou
Я берсерк! Сейчас пообещаю и в бой! #mushroom instagr.am/p/QmJYGYlm9t/

А 6-й вечара атрад вяртаецца з палігона. Там чысцяць тэхніку пасля стральбы. Цяпер усе рыхтуюцца да ночы.

*«Займаемся падрыхтоўкай дроваў на ноч, ад чаго я паспяхова адлыньваю, размаўляючы па тэлефоне. Недзе а 7-й гадзіне дружна пойдзем у сталоўку».*

Прызвалі на зборы не толькі афіцэраў, а больш тых, хто служыў тэрмінова. У штаце ёсць пісар, чарцёжнік, медбрат, фельчар. Ёсць повары, якія гатуюць ежу, і інжынеры, якія, напрыклад, праводзілі святло ў намёт, — іх таксама прызвалі з рэзерву. У звычайным жыцці людзі працуюць у розных сферах.

*«Нехта менеджарам, тэхнолагам, роскід вялікі. Калі трэба было разабрацца з мясцовым камп'ютарам, у нашым дывізіёне аказалася 3 сісадміны».*

Камандуюць усім штатныя афіцэры. Дарэчы, нікому, акрамя іх, нельга пакідаць лагер, таму адлегласць да бліжэйшай крамы тут ніхто не ведае. Часам прыязджае аўтакрама, але алкаголь не прывозіць. Ды і весялосць тут у іншым.


beliashou @beliashou 19 ч
Я не ответил на вопрос Еврорадио о том, что на сборы едут отдохнуть и побухать. После сегодня я бы накатил сотку, но тут не пьют никто :-(
Развернуть


beliashou @beliashou 19 ч
Такого энтузиазма и боевого слаживания подразделения как призаготовке дров не наблюдалось ни в чём.
Развернуть


beliashou @beliashou 19 ч
Я всё звездею и звездею! Звонили с Еврорадио - рассказывал им что кушаю и как сплю :-)

## «П'Ю І ЗАКУСВАЮ НА ДЗЯЖУРСТВЕ»

*«У адным намёце можа быць весела, у іншым сумна. Мне з камандзірамі пашанцавала. Мы навешвалі на сябе аўтаматы, процівагазы і іншае, толькі па неабходнасці. Суседскія ж падраздзяленні, я бачыў, з моманту атрымання з усім гэтым хадзілі. З аўтаматам у сталоўку».*

Дзедаўшчыны няма, хаця Мікалай прызнаецца, што трошкі дыктатуры тут не перашкодзіць. Часам людзі не разумеюць, і, як піша ў твітэры: «Учора адчуў неабходнасць дзедаўшчыны: калі чалавек у пяты раз не разумее простай каманды, разумееш, што даць у пысу яго матывуе».

*«Тут не вядома, хто паводле рангаў круцей: афіцэры, якія нідзе не былі, ці сяржанты, якія адслужылі 2 гады. Сёння разбіраць аўтамат мяне вучылі выключна салдаты. У паходзе, калі чалавек не змог уліцца ў калектыў, яго наступны раз не бяруць. А арміі хочаш не хочаш, а служыць разам трэба»,* — тлумачыць Мікалай жарт наконт дзедаўшчыны.

Прызнаецца, што стаў па-іншаму глядзець на жарты наконт войска. Маўляў, гэтыя ўсе байкі вырваны з кантэксту, у адпаведным асяродку яны выглядаюць цалкам нармальна.

**ВІТАЛЬ РУГАЙН**

# РЭКАНСТРУКЦЫІ З-ЗА КРАТАЎ

**Вядомы беларускі праваабаронца, грамадскі дзеяч Алесь Бяляцкі планаваў выдаць да свайго пяцідзесяцігоддзя зборнік літаратуразнаўчых прац. Але атрымалася так, што кнігу давялося ўкладаць з-за кратаў, ды дадаць у яе раздзел пра "турэмную" літаратуру Беларусі. Да канца года выданне мусіць выйсці ў свет.**




*Свабода чакае Бяляцкага*

25 верасня Алесю Бяляцкаму споўнілася 50 гадоў. Ён шырока вядомы дзякуючы сваёй праваабарончай дзейнасці. Да юбілею Бяляцкага ў Беларусі і па-за яе межамі разгарнулася шырокая кампанія – палітыкі, дыпламаты, грамадскія дзеячы, простыя грамадзяне выказвалі палітвязню свае словы падтрымкі і найлепшыя пажаданні.

Свой прафесійны шлях Алесь Бяляцкі распачынаў як літаратуразнаўца, скончыў аспірантуру па гэтай спецыяльнасці. Раней выйшлі літаратуразнаўчая манаграфія "Літаратура і нацыя" (1991) і кніга нарысаў і эсэ "Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера" (2006) аўтарства Бяляцкага. Да 50-годдзя Алесь Бяляцкі пачаў парадкаваць свае тэксты – працы па гісторыі беларускай літаратуры, успаміны пра беларускіх літаратараў, літаратурную крытыку.

Выданне абяцае быць унікальным, як мінімум паводле гісторыі яго стварэння. Арганізатарскую працу на сябе ўзяла даўняя паплечніца Алеся пісьменніца **Паліна Сцепаненка**. Бяляцкі ж у лістах з-за кратаў займаецца напаўненнем кнігі.

Спадарыня Паліна гаворыць, што ўжо завершаная першая карэктура. Цяпер яна зоймецца структураваннем кнігі: выданне будзе пабудаванае па прынцыпу перавернутай піраміды. То бок спачатку будуць прадстаўленыя творы, напісаныя апошнім часам, у прыватнасці гэта эсэ пра турэмную літаратуру, той жа водгук Бяляцкага на паэму "Лісты да Волі" Уладзіміра Някляева. Паступова чытач дойдзе і да літаратурных прац Бяляцкага, якія былі напісаныя ў 1980-ыя гады. Самы ранні тэкст з будучай кнігі — рэцэнзія на Купалаўскую энцыклапедыю, якая выйшла ў 1987 годзе.

"Мы абмяркоўвалі структуру кнігі, — распавядае пра этапы працы з-за кратаў над кнігаю Паліна Сцепаненка. — Першапачаткова думалі перавыдаць кнігу Алеся "Літаратура і нацыя". Гэта фактычна ягоная дысертацыя, то быў бы самы просты варыянт. Але потым Бяляцкі распавёў, што яшчэ да арышту ў яго з'явілася задума выдаць зборнік сваіх прац. Ён напісаў нам дзе якія матэрыялы захоўваюцца, і я пачала рабіць. Мне падаецца, што гэтая праца цягнецца ўжо даволі доўга".

Алесь Бяляцкі займаўся даследаваннем творчасці пісьменніка Францішка Аляхновіча, які першы напісаў пра сталінскія лагеры, працаваў у архівах, адкрываючы імёны забытых і забароненых у савецкі час літаратараў.

"Я пісала Алесю, што Аляхновіч сядзеў у турмах пры розных уладах, і мне падалося, што Алесь прымерваў да сябе яго лёс. Алесь кажа, што займаўся гістарычна-псіхалагічнай рэканструкцыяй. Думаю, калі б Бяляцкі гэтаму надаваў больш часу, калі б гэта было яго прафесійнай дзейнасцю цяпер, то з яго атрымаўся б выдатны рэканструктар. У Алеся добра прасочваецца ідэя, што нацыяналізм ёсць сувяззю часоў. Ведаеце, тэксты Бяляцкага, што тычацца беларускіх адраджэнцаў пачатку дваццатага стагоддзя, вельмі цікавыя, ён піша пра іх як пра знаёмых людзей, а не пра нейкія абстрактныя фігуры", — распавядае паплечніца Бяляцкага.

Паліна адзначае, што гэта не першы досвед укладання кнігі праз ліставанне. У часы сваёй працы ў Музеі Максіма Багдановіча (дырэктарам Музея тады працаваў Бяляцкі) Паліна Сцепаненка перапісвалася з Наталляй Арсеньевай, збіраючы такім чынам матэрыялы да кнігі. "Калі мы свабодныя, то шмат забірае будзённасць, мітусня. А ў турме ёсць час падумаць, так што нашае супрацоўніцтва з Бяляцкім нават цікавае", — ці то іранізуе, ці то сур'езна гаворыць Паліна.

Выдаўцы абяцаюць, што кніга выйдзе ў лістападзе і будзе зробленая максімальна якасна, бо фактычна яна станецца падарункам Алесю Бяляцкаму да 50-годдзя ад яго калег і сяброў. Над афармленнем кнігі працуе вядомы беларускі графік.

**ВОЛЬГА ХВОІН**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 11.10.12
Тыраж 299 экзэмпляраў